Ніва
ШТОТЫДНЁВІК
ГОД І № 27 БЕЛАСТОК, 2 ВЕРАСНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

JÓZEF BURSEWICZ
SZCZECIN

# BIAŁORUSINI

Pamiętam łąki, torfowiska,
Wrośnięte w ziemię wasze chaty,
Stare, dębowe uroczyska,
Siwe kożuchy, w gęste łaty.

Łapcie z wikliny — to symbole
Piaszczystej nędzy, rąk sękatych,
Które wspierały łyse pole
Cięte w gryczano-żytnie płaty.

Pamiętam ludzi przygarbionych,
Kobiety w grubych, białych chustkach.
I dzieci, które wychudzone
Chleba prosiły krzywiąc usta.

A pieśń tych ludzi smutkiem wiała
I nie pachniała, jak maciejka —
Słowa tej pieśni tchnął Kupała,
A tytuł smutny jej — Żalejka.

Dziś się sprawdziły tęskne słowa,
Słowa za serca nasze rwące,
Które wydała śpiewna mowa:
„Zahlanie sonca i u nasze akonca".

# Do poezji białoruskiej

Szumiałaś cicho wierzbą krzywą,
Wiatrem płakałaś na rozstajach —
Gdy koń potrząsał rudą grzywą,
Koń, który nigdy się nie najadł.

A chłop koniowi gładził żebra,
Tłumaczył jemu: brak pieniędzy;
Potem wyjmował kawał chleba,
Który ukryty miał w siermiędze.

I tyś poezjo, to spostrzegła,
Że koń nie przyjął, łzę miał w oku.
I biedna szkapa znów pobiegła
Drogą majątków i obroku.

W serca bogatych żadna drzazga
Chłopskiej niedoli się nie wbiła:
Po białoruskich, siwych piaskach
Nędza z poezją wkrąg chodziła.

Twoim poetom rozpacz rwała
Kartki, na których wiersz powstawał;
Twardniało serce, tak jak skała
I uderzało w kodeks prawa.

Poezjo polna, rosochata —
Rozbiłaś mury praw bezprawnych
I naprzód idąc, po przez lata
Zniszczyłaś nędzę lat niedawnych.

Skromny poeta tobie życzy
Zielonych wzruszeń w wiersza tonie —
Gdy twoje zwrotki będę liczył —
Niech jeszcze bardziej drżą me dłonie.



# Пачэснае прызначэнне

Зазваніў школьны званок і школа ажыла, зашумела, зазвінела шматлікімі галасамі. Адчыніліся дзверы класных пакояў з партамі і школьнымі дошкамі, — як штогод. У іх хутка пачаў уліванца свежы, малады, адпачыўшы ў час летніх канікул, натоўп.

Ззаду засталіся жнівеньскія прасторы, — наперадзе — іншая мэта, іншае жыццё — жыццё школьнае.

Калі я гавару школьнае жыццё, успаміны вяртаюцца да ўласных школьных год; перад вачыма паўстае цэлы рад меншых і большых падзей, з'яў, выпадкаў: вясёлых, добрых, і прыкрых, і сумных.

Мы калісь, акружыўшы сваю настаўніцу пачалі, як гэта часта бывала, гутарыць з ёй. Яна як родная маці цярпліва адказвала на ўсе нашы пытанні. Аднойчы мы запыталі яе: — а ад чаго ў вас сівыя валасы?

— Вы хутка пакінеце мяне, — адказвала яна, — а колькі ўжо было раней такіх, каторых я любіла як вас, з каторымі зжылася, і яны пакінулі мяне таксама.

Гады працы з імі і з вамі, працы нялёгкай, і не заўсёды вясёлай, бо шмат з вас часта беспадстаўна, зласліва крыўдзіць настаўніка, зрабілі валасы маі сівымі. Ды гэта нічога. Каб толькі вы былі шчаслівымі.

Мы настаўнікі да гэтага імкнемся.

*

Не так даўно я наведала сваю каліснюю школу. Ільі Захаравіча не было.

Ён хворы — адказалі мне. Я вырашыла пайсці да яго на кватэру.

Заходжу, а ён сядзіць за сталом, — абложаны сшыткамі, паперамі, кніжкамі. Спатыкае мяне радасна.

— Мне сказалі, што Вы хварэеце — адзываюся я.

— Дрэнна, дрэнна чуюся... ногі... стары ўжо...

— Дык чаму-ж працуеце?

— Трэба, ведаеце, трэба падрыхтаваць матэрыял, няма часу бяздзейна сядзець. Узаўтра ўжо іду ў школу, я яшчэ там патрэбны. Далей мы завялі гутарку аб мінулым, калі я яшчэ была яго вучнёўкай.

— Парассыпаліся па свеце маі выхаванкі. Так... адны ад нас адыходзяць, другія прыходзяц.

— Усе тыя, што адыходзяць не забылі пра Вас — кажу я.

У Ільі Захаравіча ад радасці слёзы ў вачах — глыбокіх, поўных бацькоўскай любві.

*

Новы навучальны год мне заўсёды нагадвае постаць настаўніка — клапатлівага прыяцеля, уважліва, хоць часта непрыкметна сачыўшага за кожным крокам вучня, цікавіўшагася яго патрэбамі, яго жыццём; сумуючага па адыходзячых на прасторныя шляхі жыцця сваіх дарослых „школьных дзяцей" і радасна сустракаўшага новых наведвальнікаў, — наймалодшых. Ён і аб тых не забывае, і аб гэтых дбае. І ўслед за тымі бягуць яго думкі і гарачыя сардэчныя пажаданні і—гэтым аддае частку свайго сэрца. І гэта нічога, што прыдзе час калі і яны адыйдуць, накіраваныя яго рукой, у свет шырокі.

Яго прызначэннем — кожны год перажываць растанне і кожны год новую сустрэчу.

ВЕРА ЛЕУЧУК.

